# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 20 снежня 1994 года | № 136 (10836) | Цана 80 руб.


■ Фотарэпартаж

## ЗІМОВЫ ДЗЕНЬ — УРАДЖАЮ



Парадавала сёлета ніва працаўнікоў калгаса "Колас" Крупскага раёна. Вырашчаны неблагі ўраджай сельскагаспадарчых культур. І ў гэтым немалую ролю адыграла тое, што кожны гектар атрымаў добрую запраўку арганічнымі ўгнаеннямі.

Сёння, калі палі ўкрыты беласнежнай коўдрай, хлебаробы праяўляюць гаспадарскі клопат аб новым ураджаі. У калгасе актыўна вядуць назапашванне мясцовых угнаенняў, дастаўляючы штодзённа да месц кампаставання 500 тон торфу і гною.

Поўным ходам ідзе рамонт тэхнікі і прычапнога інвентару.

*Мікалай КУЗЬМЕНКА.*

**НА ЗДЫМКАХ:** намеснік старшыні калгаса **С.Б.Гур** гутарыць з механізатарамі **С.А.Малашчанка, У.М.Ходасам, Д.М.Назаранкам, А.А.Кузняцовым, І.В.Сініцыным;** вывазка арганікі: вадзіцель пагрузчыка — **В.І.Сяргееў.**

*Фота Анатоля БАСАВА.*



■ За прылаўкам і побач

## ПРАПАНУЕЦЦА... "ЖАР-ПТУШКА". КОШТ — УМЕРАНЫ

**Вытворцы лічаць гэтую справу даволі прэстыжнай і ну-у якой перспектыўнай! Абвяшчаюць яе "крокам насустрач пакупніку" і "стымулам далейшага пошуку"...**

**Імя ёй — фірменны гандаль. Пэўна, у кагосьці перад вачыма ўжо паўсталі "Курыныя прысмакі", "Залатыя пеўнікі" і іншыя шматлікія "пярнатыя шыльды", якія ганарова красуюцца на магазінах і магазінчыках сістэмы Белптушкапрома. Сярод гэтай сотні "Жар-птушак" — гандлёвыя прадпрыемствы племптушкарэпрадуктара "Камсамолец", што ў Мінскім раёне. Тут, у "Камсамольцы", справу пад назвай "купі-прадай" лічаць надзейным сродкам выжывання нават у самых экстрэмальных умовах сённяшняй ліхой гадзіны. Маўляў, лішкі — на хлеб, а то яшчэ і на масла застанецца. Магчыма, магчыма...**

**А нам, пакупнікам, што за карысць?..**

— Растлумачу на прыкладзе, — пачаў гаворку мой суразмоўца **Аляксандр Паўлавіч САКОВІЧ.** (Ён — эканаміст па збыту і фірменнаму гандлю ППР "Камсамолец", і таму асоба ўпаўне кампетэнтная). — Некалькі месяцаў назад у Мінску, на Галадзеда, 75 і Убарэвіча, 16, з"явіліся нашы фірменныя магазіны. Чыжоўку, пагадзіцеся, прэстыжным раёнам не назавеш. А не так даўно прыняў пакупнікоў філіял на Сцебенева, 20, што ў раёне Слуцкай шашы. Самая што ні ёсць ускраіна! Удалечыні ад бойкіх вуліц. Але ў гэтай "гарадской глыбінцы" таксама жывуць людзі. Хіба ж гэта не адметны штрых фірменнага гандлю: быць як мага бліжэй да спажыўца, шукаць пакупніка? На маю думку, гандлёвых манапалістаў не надта цікавяць сёння такія праблемы. Мо здаровая канкурэнцыя — толькі "плюс" для абодвух "бакоў" прылаўка?..

***— Ці лёгка вытворцам гандляваць?***

— Мы ўважліва прыглядаліся і доўга вывучалі эксперыментальны вопыт птушкафабрыкі імя Крупскай — галаўнога прадпрыемства нашага аб"яднання, ініцыятара і, можна сказаць, піянера фірменнага гандлю. Пагадзіцеся: добра, калі мяса птушкі, каўбаса, яйкі трапляюць на гандлёвы прылавак прама з цэха. Мінаючы пры гэтым розныя "перавалачныя пункты" ў выглядзе баз ці халадзільнікаў, якія патрабуюць, па-першае, дадатковых грошай і клопатаў. Па-другое, вядома, што да нядаўніх абмежаванняў гандлёвыя "накруткі" вызначаліся сумамі, роўнымі 30—40 працэнтам кошту тавару. Па-трэцяе, якасць нашай прадукцыі ад доўгіх "гандлёвых прыгод", самі разумееце, зусім не паляпшалася. Ды і ўвогуле, для прадпрыемства "свежая" капейка штодзень — справа не дзесятая. Асабліва цяпер, у "эпоху інфляцыі" і, без перабольшання, усеагульнага банкруцтва. Калі сумежнікі так доўга не могуць разлічыцца за адгружаную прадукцыю, што яна, нават самая дарагая, аддаецца ім нібы задарма! Між тым, выручка нашых магазінаў складае сумы ўпаўне прыстойныя, дзякуючы якім можна не толькі аказацца, што называецца, на плаве, але і крочыць наперад.

***— Як вы вытрымліваеце канкурэнцыю з гандлярамі больш вопытнымі? Я маю на ўвазе ў першую чаргу прадпрыемствы "роднай" галіны?***

— Спачатку было нялёгка: у "Камсамольца" вузкапрофільная спецыялізацыя, мы не працуем непасрэдна на выпуск таварнай прадукцыі. Але ў нашых магазінах ёсць усё ці амаль усё з асартыменту прадуктаў птушкагадоўлі. Ва ўсякім разе, не менш, чым у іншых фірменных магазінах. Значна дапамагае ў гэтым каардынацыя і выдзяленне фондаў — імі займаецца РВА "Белптушкапром", якім кіруе К.К.Дзягілеў. Напрыклад, Маладзечанская птушкафабрыка пастаўляе нам свежаахаладжаную індычку, далікатэсныя каўбасы і рулеты з мяса гэтай птушкі. Дарэчы, каўбасы "Аляхновіцкая" і "Радашковіцкая" па смакавых і харчовых якасцях увогуле не маюць роўных сярод аналагічнай прадукцыі. А вэнджаных курэй, курыную ікру, кансервы з куранят мы атрымліваем з птушкафабрыкі імя Крупскай. Дарэчы, гэты калектыў нядаўна наладзіў вытворчасць сасісак з мяса курэй, якія карыстаюцца павышаным попытам у пакупнікоў. З забойных цэхаў Дзяржынскай, Смалявіцкай і 1-й Мінскай птушкафабрык паступаюць да нас бройлерныя птушаняты. Усё гэта — па заяўках магазінаў. І, зразумела, дзякуючы наладжанай сістэме ўзаемаабмену.

Адказваючы на гэтую "таварную ўвагу", "Камсамолец" пастаўляе сумежнікам у "Дубаўляны" добрае племяннное яйка для вывядзення ў інкубатары куранят, якія і з"яўляюцца зыходным матэрыялам для ўсёй пералічанай прадукцыі. Я думаю, што менавіта дзякуючы такой вось спецыялізацыі вытворчасці, на базе міжгаспадарчай кааперацыі, "уключыўшы" новыя эканамічныя рычагі ва ўзаемаадносіны падраздзяленняў і стварыўшы фірменны збыт сваёй прадукцыі, наша галіна, што называецца, трымаецца і вырашае многія праблемы.

***— Такім чынам, ведамасныя структуры вас разумеюць і падтрымліваюць. А як наконт мясцовых улад?***

— Шчыра кажучы, спачатку з алоўкам у руках мы даказвалі мэтазгоднасць і ўзаемавыгаду ад стварэння фірменных магазінаў. Цяпер жа па распараджэнню Заводскага райвыканкома Мінска, на тэрыторыі якога працуюць нашы магазіны, туды завозяць свежы хлеб, бакалею, малочныя прадукты, кандытарскія вырабы і іншыя тавары паўсядзённага попыту. І гэта вельмі правільна, бо ў магазіне, размешчаным зусім не на бойкім месцы, павінен існаваць абавязковы, хоць бы і мінімальны, асартыментны пералік. Пакупнік ад гэтага толькі выйграе, а фірменны гандаль нічога не страціць.

Мы стараемся выконваць свае планы не за кошт гандлёвых нацэнак (яны ў нас ніжэйшыя, чым у дзяржгандлі), а за кошт максімальных аб"ёмаў продажу прадукцыі. Да таго ж, у бліжэйшых планах работы нашых магазінаў — арганізацыя працы без выхадных дзён, па падоўжанаму графіку. Шукаем магчымасці для адкрыцця грыль-бара. Пашыем спецадзенне для прадаўцоў. Абавязкова зоймемся афармленнем арандуемых гандлёвых плошчаў.

Адна з праблем, над якой цяпер працуем, — нарошчванне магутнасцей перапрацоўчых ліній па вырабу папулярных у спажыўцоў далікатэсаў з птушынага мяса, а таксама вяндліны.

Бо, пагадзіцеся, гандаль — патрабаванне сённяшняга складанага часу. Без гэтага проста не выжыць...

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

КЛЕЦКІЯ НАВІНЫ

### "ЛЯГУ Ў БАЛЬНІЦУ"

Даматканавіцкая ўчастковая бальніца невялікая, усяго на 25 ложкаў. І заўсёды запоўнена. Хворыя жыхары навакольных вёсак, асабліва пенсіянеры, ідуць сюды з адзінай просьбай: "Хачу ў вас паправіцца". Многія не ад добрага жыцця прымаюць такое рашэнне: у бальніцы, як-ніяк, і пакормяць, і знойдуць такія-сякія таблеткі.

У медыкаў безліч праблем. Не хапае сродкаў, каб абнавіць бялізну. Бываюць перабоі з неравязачнымі матэрыяламі, нярэдка "дае асечку" кацельня. І ўсё ж тут кожнага пацыента ветліва сустрэнуць і па магчымасці дапамогуць, "паставяць на ногі".

### САГРЭЙ МЯНЕ, ПЕЧКА

Рэдка сёння сустрэнеш сапраўднага майстра-печніка.І ўсё ж такія людзі, глядзіш, час ад часу "ўспыхваюць", як зоркі на небасхіле. У вёску Рубеж да Івана Іосіфавіча Мінца едуць адусюль. Ведаюць: ён пячны чараўнік. Калі зробіць печ, грубку або ляжанку — залюбуешся.

— У мяне ёсць заказы з Капыльскага, Ганцавіцкага, Бабруйскага і іншых раёнаў, — гаворыць Мінец. — Многія цяпер нават у катэджах імкнуцца мець прыгожую печку або грубку. Вось і ў нашым калгасе імя Ульянава ў новых дамах мне даводзіцца "даваць цяпло", будаваць стаякі.

### ВАЛЮТА, ВАЛЮТА

Колькі б мы ні кпілі наконт "зялёненькіх", без іх цяжка набыць прадпрыемствам раёна дасканалае абсталяванне ці, як кажуць, ноу-хау. Клецкі лясгас арганізаваў экспартныя пастаўкі дачных домікаў і драўніны ў Германію, Польшчу і Фінляндыю.

Частку сваёй прадукцыі пастаўляе за мяжу Сіняўская мэблевая фабрыка. Гэта патрабуе ад калектыву асаблівай увагі да ўдасканалення тэхналагічнага працэсу, бо "там" не прымуць мэблю з дэфектам, "там" не плацяць долары за халтуру...

### ЗАХОЧАМ — ЗМОЖАМ

Кансервавы завод, нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, трымаецца на плаве. Сёлета распрацаваны і запушчаны ў вытворчасць пяць новых відаў прадукцыі. Сярод іх перац марынаваны, марынад "Рубін", асарці з агародніны.

У раёне і рэспубліцы карыстаецца попытам "Кетчуп паклецку". Па сваіх смакавых якасцях ён не ўступае замежнаму.

Выходзіць, пры жаданні і наш братка-беларус акрамя традыцыйнай салянкі можа парадаваць пакупнікоў чымсьці арыгінальным.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

■ Акцыянернае таварыства "Забудова"

## І БЯСПЛАТНА АБАЯЛЬНУЮ ЎСМЕШКУ

*падораць вам каралевы бензакалонкі ля Краснага*

Вы можаце ўявіць сабе, што такое 70.000 кубаметраў зямлі? Правільна, не забылі арыфметыку: для перавозкі яе спатрэбілася б 14.000 аўтасамазвалаў грузападымальнасцю пяць кубаметраў.

Паглядзець у натуры? Калі ж будзеце ехаць па аўтамагістралі Мінск—Маладзечна, то кіламетраў за пяць да Краснага павярніце на дарогу да Чысці. На ёй метраў за 200 ад шашы з левага боку ўбачыце даволі вялізную добраўпарадкаваную пляцоўку аўтазаправачнай станцыі. Каб прывесці яе ў такі стан, давялося зразаць добрую частку ўзгорка вышынёй некалькі метраў. А потым ствараць падземныя памяшканні для захоўвання гаруча-змазачных матэрыялаў, манціраваць пад зямлёй ёмістасці для бензіну. Зямлі давялося перавярнуць горы. Гэтыя кубаметры і цяпер часам сняцца Назаранку, які пачынаў будоўлю АЗС летась у лістападзе.

— Дай бог, каб вы, дзяўчаты, атрымлівалі столькі падзяк за добрую работу, колькі мне перападала крытыкі за ход будаўніцтва, — пажадаў калектыву АЗС Аляксандр Іванавіч.

І не таму, што поўнасцю "заваліў" аб"ект, інакш генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Забудова" І.М.Русак не ўзяў бы яго зараз сваім памочнікам па капітальнаму будаўніцтву. Іосіф Мікалаевіч не церпіць абыякавых і раўнадушных да сваёй справы людзей, якія працуюць спусціўшы рукавы. Ён патрабуе ад падначаленых і тэмпаў, і якасці. Крызіс эканомікі стварае бар"еры? Ну што ж! На тое вы і кіраўнікі, каб знаходзіць найбольш рацыянальны выхад з любой, на першы погляд, і тупіковай, сітуацыі. Вось чаму і даставалася Назаранку. Перш за ўсё за тое, што недааацаніў аб"ект і не адразу ж, з першых дзён, арганізаваў на ім земляныя работы, занадта шмат часу затраціўшы на раскачку. Калі ж выб"ешся з графіка, то затым адна няўвязка пацягне за сабой другую, трэцюю...

— За аўтазаправачную станцыю мы ўзяліся невыпадкова, — расказвае намеснік генеральнага дырэктара "Забудовы" па камерцыйнай рабоце і маркетынгу У.С.Бармаш. — Хаця будаўніцтва для нас і асноўны від дзейнасці, аднак развіваем і іншыя вытворчасці, а таксама займаемся гандлем. Без падобнай мнагапрофільнасці цяжка выжыць у рыначнай стыхіі: на адным страціш, на другім прыдбаеш. А аўтазапраўка — гэта ж жывая капейка.

Сапраўды, яе паяўленне тут, непадалёку ад Краснага, якраз дарэчы. Думаю, і шматлікія аўтамабілісты скажуць за яе шчыры дзякуй "Забудове". Бо калі ты не заправіўся ў Заслаўі /а там часам і бензіну не бывае/, то спадзявайся толькі на Маладзечанскую АЗС — іх больш на гэтым участку нідзе няма.

У мінулую пятніцу абслужыла першых кліентаў аўтазаправачная станцыя "Забудовы", размешчаная ля Краснага. Як прынята ўжо, АЗС асвяціў айцец Павел Хадакоўскі, настаяцель Свята-Пакроўскай царквы вёскі Краснае. "Пастарайцеся так працаваць, каб вас людзі заўсёды ўспаміналі добрым словам", — пажадаў ён аператарам аўтазапраўкі.

Старшы аператар Ганна Някрасава дае даведку: ёсць калонкі для бензіну маркі А-76, А-92, А-95 і дызпаліва. Чатыры калонкі для масла. Неўзабаве яны пачнуць на АЗС расфасоўку нафтапрадуктаў. Аплата — за наяўны разлік. Працуе АЗС кругласутачна.

Так што, дарагія аўтамабілісты, не ўпадайце ў роспач, калі ў вас на ўчастку паміж Маладзечна і Заслаўем скончыцца паліва. Вашу бяду рукой развядуць маладыя каралевы бензакалонкі ля Краснага. І ў дадатак падораць вам яшчэ бясплатна абаяльна-шчырую ўсмешку.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ Рынок и труд

## НЕВЕСЕЛЫЙ ПРОГНОЗ

Ухудшение состояния экономики создает и напряженность на рынке труда, увеличивает количество безработных.

На начало 1994 года на государственных и общественных предприятиях и в организациях было занято 541,9 тысячи человек, или 76,5 процента от общего количества всех трудовых ресурсов области, в колхозах — 154,2 тысячи (21,8), в крестьянских хозяйствах — 1,5 тысячи (0,2), в кооперативах — 3 тысячи (0,4). Индивидуальной трудовой деятельностью занималось 7,9 тысячи человек (1,1 процента).

Наш анализ показывает, что в этом году в районные и городские центры занятости населения обратятся за помощью в трудоустройстве 26 тысяч человек, из которых почти половину предполагается трудоустроить. На конец года 20 тысяч безработных будут состоять на учете в службе занятости, из них более 65 процентов — женщины. Уровень безработицы в течение года увеличится в 1,3 раза и составит 2,4 процента от численности трудоспособного населения. А в таких районах, как Пуховичский, Солигорский, Несвижский он значительно превысит среднеобластной показатель.

Сложной остается проблема трудоустройства молодежи, выпускников различных учебных заведений. Безработица среди них возросла против прошлого года на 31,3 процента.

Невеселый прогноз и на новый год. Свои услуги на рынке труда предложат минимум 120 тысяч человек. В том числе: уволенные — 58 тысяч, молодежь, окончившая общеобразовательные школы и учебные заведения, — 17,2 тысячи, высвобожденные работники — 14,5, военнослужащие, уволенные из армии, — 5,4, занятые в домашнем хозяйстве и другие категории граждан — 25,4 тысячи человек.

Предполагается, что 72,6 тысячи человек найдут для себя занятие самостоятельно, а 47,9тысячиобратятся за помощью в государственную службу занятости. У нас разработана программа занятости населения области на 1995 год. Она же предусматривает оказать содействие в трудоустройстве 15,6 тысячи человек. Будет направлено на профессиональную переподготовку с выплатой стипендии на период обучения 2,5 тысячи, оказана материальная поддержка путем выплаты пособий по безработице 34,3 тысячи человек.

Финансирование реализации мероприятий программы будет производиться в основном из государственного фонда содействия занятости и частично — за счет других источников. На оказание содействия в трудоустройстве безработных, поддержку предприятий и организаций в создании дополнительных рабочих мест, профессиональной подготовке и переподготовке людей, выплате пособий по безработице, на содержание службы занятости намечается направить более 14 млрд. рублей.

*Виктор ФЕДОРИНЧИК,*
*начальник отдела рынка труда*
*областного центра занятости населения.*

■ В партиях и движениях

## КОММУНИСТЫ СМОТРЯТ В БУДУЩЕЕ

Два дня в Минске проходил III съезд Партии коммунистов Беларуси, на который прибыло 326 делегатов от 150 партийных организаций. В работе съезда приняли участие делегации от политических партий левой ориентации, коммунистических партий России, Украины, Армении и др.

В повестке дня форума были вопросы: отчетный доклад ЦК ПКБ и ревизионной комиссии, об изменениях и дополнениях в программе и уставе партии, о названии и о символике партии, выборы руководящих органов.

С отчетным докладом и о задачах партии выступил секретарь ЦК ПКБ С.И.Калякин. И докладчик, и выступавшие глубоко проанализировали политическую, социально-экономическую ситуацию в республике после II /объединительного/ съезда коммунистов, критически оценили свою деятельность, наметили пути реализации программных целей партии, выработали свою стратегию и тактику в ходе предстоящих выборов и на перспективу.

По всем вопросам повестки дня приняты решения. Съезд также принял постановление о 50-летии Победы советского народа в Великой Отечественной войне, обращение к руководителям стран СНГ, где томятся в тюрьмах политические заключенные, к белорусскому народу, по поводу событий в Чечне.

Утверждена символика ПКБ. ПКБ теперь имеет свой флаг: красное прямоугольное полотнище, в его верхнем углу у древка помещено изображение золотых серпа и молота и над ними красная пятиконечная звезда, обрамленная золотой каймой. Это, по мнению коммунистов, символизирует борьбу ПКБ за воссоздание СССР. Эмблема партии представляет собой стилизованное изображение серпа и молота и пятиконечной звезды, с левой стороны от которых расположена аббревиатура названия партии. Гимном партии является "Интернационал".

Состоялся пленум ЦК ПКБ. Избраны руководящие органы партии. Утвержден главный редактор газеты "Товарищ". Им стал Е.И.Семашко. Первым секретарем ЦК ПКБ избран Сергей Иванович Калякин.

*/НАШ КОРР./*

## ЮБІЛЕЙНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

### праведзена ў Маладзечанскім улікова-планавым тэхнікуме з нагоды 35-годдзя гэтай навучальнай установы

Цяпер на Беларусі, бадай, няма ніводнага райспажыўсаюза, дзе б не працавалі выхаванцы Маладзечанскага ўлікова-планавага тэхнікума, які трыццаць пяць гадоў таму назад прыняў першых навучэнцаў. А было іх тады 150 чалавек. Сваё прафесійнае майстэрства ім перадавалі 14 выкладчыкаў. Займаліся ў пяці цесных пакойчыках.

Сёння тут па-ранейшаму рыхтуюць спецыялістаў для кааператыўнага гандлю: бухгалтараў, эканамістаў, рэвізораў. Нядаўна ўведзена новая прафесія — прэтэнзіяніст. Тут навучаецца 518 навучэнцаў на дзённым аддзяленні і 180 — на завочным. На базе тэхнікума працуе і ПТВ па падрыхтоўцы прадаўцоў, у якім займаюцца 85 юнакоў і дзяўчат. Дарэчы, і назва тэхнікума змянілася. Цяпер яна гучыць так: Маладзечанскі вучэбна-вытворчы комплекс Беларускага кааператыўнага таварыства.

Сваю юбілейную дату выкладчыкі і навучэнскі калектывы адзначылі па-святочнаму. Праведзена ўрачыстая канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел і многія былыя выпускнікі. Як самых дарагіх гасцей на гэтым мерапрыемстве сустрэлі старшыню абласнога праўлення спажывецкай кааперацыі Я.П.Баравога і старшыню Белкаапсаюза В.С.Владыку, якія таксама з дыпломам гэтай навучальнай установы ў свой час пайшлі ў самастойнае жыццё.

Карацей кажучы, умеюць у Маладзечне рыхтаваць добрыя кадры.

Крымінал-тэлетайп

### ЖЫЦЦЁ — ЗА ПЯЦЬ ПУХОВЫХ КУРТАК

Злачынцы затрыманы. Канфіскаваны крадзены тавар. Але каму вяртаць? Гаспадар, прыватны прадпрымальнік, забіты нажом.

Злачынства на сумленні двух сталічных непрацуючых. Участковыя і нарад патрульна-паставой службы Заводскага раёна адрэагавалі аператыўна. Толькі ўсё роўна горка — чалавека не вернеш, ужо не сагрэюць пуховыя курткі...

### ПАДПАЛЬШЧЫК — РАНЕЙ СУДЗІМЫ

Супрацоўнікі Мінскага райаддзела міліцыі вылічылі злачынцу, які нанёс мільённыя страты саўгасу "Бальшавік". Дзесяткі тон сена ператварыліся ў попел па віне непрацуючага, раней судзімага.

### НЕ ПАСПЕЛІ

А палове чацвёртай раніцы на пульце цэнтральнага назірання аддзела аховы пры Нясвіжскім РАУС спрацавала сігналізацыя. Праз дзве мінуты, паводле сцвярджэння міліцыі, нарад быў на месцы злачынства. Але, на жаль, позна — злачынцаў і след прастыў.

На месцы шкляных дзвярэй камерцыйнага магазіна "Альфа" была дзірка. Праз яе як ветрам садзьмула відэатэхніку і іншыя больш дробныя тавары на мільённыя сумы. Шукай цяпер.

*БЕЛІНФАРМ.*

